# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 30 (191), 16 — 22 ЖНІЎНЯ 1995 ГОДА. КОШТ 1000 РУБЛЁЎ



# ВОЛАТ ПАЭТЫЧНАГА ДУХУ

***Беларускі народ панёс вялікую страту. Пайшоў з жыцця Паэт, Чалавек, Грамадзянін. Яшчэ на адну асобу збяднела беларускае слова. Развітваючыся з Максімам Танкам, мы нізка схіляем свае галовы, аддаём даніну павагі майстру, без творчасці якога цяжка ўявіць беларускую літаратуру апошніх дзесяцігоддзяў.***

***У афіцыйным некралогу, падпісаным Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, кіраўнікамі дзяржавы і ўрада, беларускімі пісьменнікамі, ёсць і такія словы: "Яго жыццё — прыклад самаахвярнага служэння Бацькаўшчыне. Усе, хто ведаў Яўгена Іванавіча, назаўсёды захаваюць аб ім самую светлую памяць. Ён любіў людзей, а людзі любілі яго, і гэтая любоў стане найлепшым помнікам суайчыннікаў свайму народнаму песняру".***

*(Заканчэнне на стар. 3)*



Фота Генадзя ЖЫНКОВА

СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

# СВЯТА ПАВІННА СТАЦЬ АГУЛЬНАНАРОДНЫМ

***Пра падрыхтоўку да правядзення свята "Дзень беларускага пісьменства і друку" карэспандэнту газеты "Культура" распавёў начальнік упраўлення сродкаў масавай інфармацыі Міністэрства культуры і друку РБ Уладзімір ЛАМЕКА.***

Галоўная падзея, на якой мы зараз канцэнтруем свае высілкі, гэта правядзенне агульнарэспубліканскага свята "Дзень беларускага пісьменства і друку", асноўныя мерапрыемствы якога будуць праходзіць на радзіме вельмі адметнай і прыцягальнай асобы ў нашай гісторыі Кірылы Тураўскага ў старажытным Тураве. Цесна знітаваны з ім будзе фестываль беларускай прэсы, які адбудзецца ў той жа дзень у Мінску. З 1 па 3 верасня працягнецца маршрут навукова-творчай экспедыцыі "Дарога да святыні" з "Нязгаснай лампадай духоўнасці". У мінулым годзе экспедыцыя праходзіла па маршруце Мінск — Жыровічы (Слонімскі раён) — Баранавічы — Святое поле — Навагрудак — Полацк.

Цяпер яна знаходзіцца на радзіме нашай першаасветніцы Еўфрасінні Полацкай. Да афіцыйнага адкрыцця свята, якое адбудзецца ў нядзелю 3 верасня а 14 гадзіне, удзельнікі экспедыцыі і прадстаўнікі святарства па шляху Быхаў — Баркулабаў — Рэчыца — Тураў прынясуць лампаду ў сталіцу сёлетняга свята.

У нас распрацавана сцэнарная праграма. Ужо разасланы рабочыя планы ў аблвыканкамы, каб у кожным абласным цэнтры, раёне былі арганізаваны адпаведныя мерапрыемствы. Павінны прыняць актыўны ўдзел і перыядычныя выданні, для іх гэта адначасова і прафесійнае свята — для журналістаў, выдаўцоў, паліграфістаў, усіх, хто мае дачыненне да пісьменства і друку.

Варта звярнуць увагу на тое, што раней Дзень пісьменства і друку праходзіў 5 траўня, у дзень выхаду газеты "Правда", аднак зараз мы суверэнная дзяржава і не зусім лагічна адзначаць свята суседняй, хоць і братняй нам дзяржавы. Раней свята планавалася прымеркаваць да дня выхаду першай кніжкі Францыска Скарыны, якая з'явілася шостага жніўня 1517 года, але калі зацвярджалася канцэпцыя на Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны ў Вярхоўным Савеце, дык нашыя навукоўцы і прадстаўнікі ўладных структур прыйшлі да высновы, што вельмі нязручна праводзіць святы ў гэты час, бо гэта час масавага адпачынку, не працуюць школы і ВНУ. Як тут сабраць і змабілізаваць усе сілы, патрэбныя для таго, каб паказаць, хто мы такія, якая наша гісторыя, якое нашае пісьменства? Зрэшты, мы мяркуем, што гэта будзе наша агульнанароднае свята накшталт таго, што святкуюць 24 траўня ў Балгарыі — свята Кірылы і Мефодзія, якія падаравалі свету славянскі алфавіт — кірыліцу. Таму вырашылі Дзень беларускага пісьменства і друку адзначаць у першую нядзелю верасня. Да гэтага часу людзі ўжо вяртаюцца з адпачынку, выходзяць на працу, на вучобу.

Першыя ўрокі і першыя лекцыі будуць прысвечаны перыядычнаму друку, ягонай гісторыі. Такія заняткі ўжо сталі традыцыйнымі, іх можна аб'яднаць пад агульнай назвай — "Пісьменства і друк — крыніца нашай духоўнасці".

Будуць праводзіцца сустрэчы ў школах, навучальных установах, на прадпрыемствах. Мерапрыемствы будуць праходзіць таксама ў калгасах і саўгасах, таму што гэта адначасова і час падвядзення вынікаў жніва, дажынкі. Сёння неабходна, каб нашае насельніцтва як мага больш ведала, хто такія Еўфрасіння Полацкая, Францыск Скарына, Кірыла Тураўскі, іншыя зоркі нашай культуры, якія набыткі мы маем на ніве выдавецкай дзейнасці, пісьменства, журналістыкі.

У падрыхтоўцы свята прымаюць актыўны ўдзел Міністэрства адукацыі і навукі, шэраг грамадскіх арганізацый і саюзаў, найперш гэта Саюз журналістаў і Саюз пісьменнікаў, Беларускі фонд культуры, Беларускі фонд славянскага пісьменства і славянскіх культур. Створаны арганізацыйны камітэт, які ўзначальвае намеснік міністра культуры і друку Станіслаў Нічыпаровіч. 2 верасня будзе наладжана навукова-практычная канферэнцыя па тэме "Роля Турава ў духоўнай культуры славян", якую праводзяць чатыры вядомыя інстытуты Акадэміі навук: Інстытут літаратуры, Інстытут гісторыі, Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, Інстытут мовазнаўства.

Работа па падрыхтоўцы свята зараз у самым разгары, мы спадзяемся, што другое свята — "Дзень беларускага пісьменства і друку" атрымаецца не горш за першае, якое ўдалося. Аднак мы зараз імкнемся выйсці на больш шырокія абсягі. Нам неабходна падтрымка журналістаў, таму што гэтае свята трэба яшчэ сцвердзіць, каб яно стала агульнанародным, бо пісьменства і друк з'яўляюцца дамінантай усёй нашай гісторыі і культуры.

# КОМПАС "КУЛЬТУРЫ"

- У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры працягваецца паказ экспазіцыі выстаў "Покліч" (літаратурны працэс на Беларусі 20—30-х гадоў, рэпрэсаваная літаратура, рэпрэсаваныя пісьменнікі) і "Васіль Быкаў — асоба і час".
- **З 30 ліпеня** першай у Мінску пачала працаваць трупа Маладзёжнага тэатра. Вядзецца падрыхтоўка да адкрыцця сезона спектаклем "А што такое каханне". Адкрыццё сезона ў тэатры адбудзецца 2 верасня.
- **17 жніўня** ў мастацкім цэнтры Жыльбел адбудзецца адкрыццё выставы "Калекцыя мастацкага цэнтра", на якой будуць прадстаўлены творы сучасных мастакоў. Уваход вольны.
- **19 жніўня** культурны цэнтр кінатэатра Масква праводзіць у начным шоу "Парадыз" 2-гі рэспубліканскі конкурс "BODY ART".
- **28 жніўня** на Глыбоччыне адбудзецца свята, прысвечанае 134-годдзю з дня нараджэння заснавальніка першага прафесійнага тэатра на Беларусі Ігната Буйніцкага. Мерапрыемствы адбудуцца і на радзіме творцы ў вёсцы Празарокі. У святкаванні возьмуць удзел артысты тэатра імя Я. Коласа, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі Мінска, мясцовыя самадзейныя калектывы.
Плануецца, што да юбілею Ігната Буйніцкага, які будзе адзначацца ў наступным годзе, будзе адкрыты музей.

# ДУБАЎ Георгій Савельевіч

Беларускае тэатральнае мастацтва панесла цяжкую страту. 9 жніўня 1995 года пасля цяжкай хваробы памёр народны артыст Рэспублікі Беларусь Георгій Савельевіч Дубаў.

Г.С. Дубаў нарадзіўся 9 снежня 1933 года ў г.Чыце. Пасля заканчэння Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута працаваў у Гродзенскім абласным тэатры, з 1964 года — акцёр Беларускага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа. Тут у поўнай меры праявіліся лепшыя рысы яго творчай індывідуальнасці, рэалізаваліся вялікія творчыя магчымасці. Бясспрэчны талент, высокае акцёрскае майстэрства вылучылі Г.С.Дубава ў лік вядучых акцёраў-коласаўцаў. Яркае камедыйнае дараванне, схільнасць да абвостранай формы спалучаліся з дасканалай псіхалагічнай характарыстыкай, мяккай афарбоўкай сцэнічнага персанажа.

Сярод разнапланавых роляў, сыграных Г.С.Дубавым на коласаўскай сцэне, нямала такіх, якія сталі здабыткам усяго беларускага тэатральнага мастацтва: Жывата Цвіёвіч ("Доктар філасофіі" Б.Нушыча), Кісельнікаў ("Багна" А.Астроўскага), Бодаг ("Тэлевізійныя перашкоды" К.Сакані), Мітрафан ("Тры мяшкі засмечанай пшаніцы" У.Цендракова), Арыстарх ("Энергічныя людзі" В.Шукшына), Рудабароды ("Клеменс" К.Саі), Людовік Мерыкур ("Будзьце здаровы" П.Шэно), Тарон ("Заставайцеся сонцам" А.Папаяна), шмат іншых.

За заслугі ў развіцці тэатральнага мастацтва Г.С.Дубаў ушанаваны ганаровымі званнямі заслужанага артыста Беларусі (1972 г.) і народнага артыста Беларусі (1990 г.), узнагароджаны Ганаровай граматай і граматамі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Прымаў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. Шмат гадоў узначальваў Віцебскую абласную арганізацыю Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі, з'яўляўся членам мастацкай рады тэатра імя Якуба Коласа.

Светлая памяць пра Георгія Савельевіча Дубава, высокага прафесіянала, цудоўнага чалавека, назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Чыгір М.М., Сазонаў М.Ю., Русакевіч У.В., Бутэвіч А.І., Андрэйчанка У.П., Кулакоў У.П., Грыгор'еў М.В., Аленская Л.К., Яроменка М.М., Дудараў А.А., Чыгрынаў І.Г., Аўсянікаў Г.С., Акружная С.А., Андрэеў І.С., Вашкевіч І.І., Герасімовіч Э.І., Клімава А.І., Канапелька З.І., Кокштыс Т.А., Куляшоў У.А., Луцэнка Б.І., Маслюк В.В., Мазынскі В.Я., Раеўскі В.М., Станюта С.М., Тарасаў У.П., Шмакаў Ф.І., Шыпіла Я.П., Янкоўскі Р.І.**

# ЗНІТАВАНАСЦЬ З ГІСТОРЫЯЙ



Вёска Цырын Карэліцкага раёна — адна з найстаражытных вёсак на Гродзеншчыне. Па летапісах ёй ужо больш за тысячу гадоў. Цікава тое, што гэта адзіная з вёсак вобласці, якая мае свой герб, які яна мела яшчэ ў сярэднявеччы.

Сёння ў Цырыне жыве больш за тысячу чалавек. У асноўным гэта працаўнікі сяла, шмат працаўнікоў культуры, адукацыі. Старажытных пабудоў у Цырыне амаль не засталося. Вёска была спалена ўшчэнт у 1915 годзе, калі па ёй праходзіла лінія фронту першай сусветнай вайны. Шмат ахвяраў панесла яна і падчас Вялікай Айчыннай вайны. Зараз вёска падобная да сотні іншых вёсак Панямоння, тут шмат новабудоўляў, вуліцы тонуць у зеляніне.

*На здымку: супрацоўнікі Цырынскага сельскага Савета Лілія Сладкоўская і Таццяна Аляшкевіч з гербам Цырына. Побач — юныя цырынчане Андрэй Лежань і Сяргей Сладкоўскі.*

**Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ**

# У ГОНАР ПАЭТА І АСВЕТНІКА

Мастацтва заўсёды несла ў сабе пачатак, які яднае людзей. У якасці яшчэ аднаго прыкладу гэтага маем урачыстасці ў Казахстане ў гонар 150-х угодкаў з дня нараджэння выдатнага паэта, класіка казахскай літаратуры Абая Кунанбаева. Для ўдзелу ў святочных мерапрыемствах, якія працягваліся цэлы тыдзень, Алма-Ату наведала беларуская дэлегацыя пад началам намесніка міністра культуры і друку рэспублікі Івана Карэнды. Урачыстасці былі праведзены пад эгідай ЮНЕСКО.

Паэт-асветнік, пачынальнік новай пісьмовай казахскай літаратуры Абай Кунанбаеў пісаў не толькі арыгінальныя вершы, але і перакладаў на родную мову паэзію Пушкіна, Лермантава, Крылова. Яго пераклады да сённяшняга дня застаюцца лепшымі ў казахскай літаратуры. У сваіх сатырычных вершах паэт адкрыта выступаў супраць сацыяльнага зла, высмейваў старыя звычаі родавага аула, выступаў супраць рабскага стану жанчыны. Абай Кунанбаеў пакінуў выдатныя лірычныя вершы, узбагаціў казахскую літаратуру новым зместам і формамі. Ён быў таксама таленавітым кампазітарам і перакладаў свае вершы на музыку.

**Віктар КУКЛОЎ**



# "МУЗЫЧНАЯ ПАЎЗА" Ў МІНСКУ ХУТКА СКОНЧЫЦЦА

Нягледзячы на "мёртвы сезон" у тэатральным і музычным жыцці сталіцы, Зала камернай музыкі Беларускай дзяржаўнай філармоніі працягвае сваю работу. Пасля канцэртаў вакалістаў і выканаўцаў камернай музыкі 28 і 29 жніўня тут адбудуцца выступленні саліста Белдзяржфілармоніі Канстанціна Шарава. Аматары аргана будуць мець магчымасць атрымаць асалоду ад цудоўнай музыкі Баха, Франка, Гільмана і Рэгера ў яго выкананні.

Канцэртная зала філармоніі адкрыецца 31 жніўня. Увечары ў ёй адбудзецца сімфанічны канцэрт, у якім возьмуць удзел Дзяржаўная харавая капэла імя Рыгора Шырмы і Дзяржаўны сімфанічны акадэмічны аркестр Рэспублікі Беларусь. Дарэчы, апошні будзе браць удзел у святкаванні 100-годдзя з дня нараджэння нямецкага кампазітара Пауля Хіндэміта. Урачыстасці пройдуць у Германіі з 4 па 11 верасня пад эгідай ЮНЕСКО.

**Аксана ПІВАВАР**

# У ПІЯНІСТАЎ З'ЯВІЦЦА ЯШЧЭ АДЗІН КОНКУРС

На Беларусі ўжо можна налічыць дзесяткі фестываляў і конкурсаў, аднак класічнай музыцы пакуль што не надавалі адпаведнай увагі. У гэтым плане шмат чаму можна было б павучыцца ў Расіі, Украіны, Польшчы, краін Прыбалтыкі. Таму зараз мае асаблівую актуальнасць рашэнне Міністэрства культуры і друку нашай рэспублікі аб правядзенні Першага Міжнароднага конкурсу піяністаў "Белая Русь". Плануецца, што ён адбудзецца з 1 па 16 красавіка наступнага года ў Мінску.

Піяністы апынуліся ў цэнтры ўвагі невыпадкова. Беларуская фартэпіянная школа перажывае зараз своеасаблівы рэнесанс. З'явілася шмат таленавітых маладых выканаўцаў. Сярод іх можна вылучыць Зміцера Марозава, які мае перамогі на прэстыжных конкурсах у Сіэтле і Барселоне, Юрыя Блінова, узнагароджанага першай прэміяй на Міжнародным конкурсе імя Пракоф'ева ў Санкт-Пецярбургу, Андрэя Паначэўнага — лаўрэата Міжнароднага конкурсу "Канцэртына — Прага". У актыве Ганны Шыбаевай перамогі на міжнародных конкурсах у Італіі, Германіі, Югаславіі. Сяргей Смірноў заваяваў першую прэмію на Міжнародным юнацкім конкурсе імя Рахманінава. Гэты спіс можна доўжыць.

Міжнародны конкурс піяністаў "Белая Русь" дазволіць не толькі на адпаведным узроўні прадставіць свету нашых выканаўцаў, але і прыцягнуць да ўдзелу ў ім буйных замежных музыкантаў. У якасці галоўнага прыза мяркуецца зацвердзіць вялікую валютную прэмію. Конкурс разлічаны на выканаўцаў ва ўзросце ад 18 да 30 гадоў. Пытанне пра тое, ці будзе ён па традыцыі прысвечаны якому-небудзь вядомаму музыканту ці кампазітару, пакуль застаецца адкрытым.

**Віктар КУКЛОЎ**

## КНІГАРНЯ

# "КАЛІ ХОЧАШ ПРАЎДЗІВА ТЫ ЖЫЦЬ..."

ІМЯ Яраслава Пархуты беларускаму чытачу добра знаёмае. Доўгія гады яго працы, яго жыцця аддадзены журналістыцы. Адзін "Вожык" чаго варты, у рэдакцыі якога Яраслаў Сільвестравіч загадваў аддзелам фельетонаў. Але ж ёсць у гэтага пісьменніка (дарэчы, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь) і іншая вядомасць. Яраслаў Пархута — адзін з самых руплівых літаратараў-краязнаўцаў нашай Бацькаўшчыны. Перш чым нешта расказваць надалей, давайце паспрабуем разабрацца ў двух тлумачэннях- вымярэннях. Па-першае, што ж гэта такое — "краязнаўства" і які ён "звер" — краязнаўца. Думаю, што супынак на тое не лішні. Дык вось зазірнем напачатку ў "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы": "Краязнавец, — знаўца,... Спецыяліст па краязнаўству; знаўца якога-небудзь краю". "Краязнаўства... вывучэнне геаграфіі, гісторыі, эканомікі, культуры пэўнай мясцовасці насельніцтвам, для якога гэта тэрыторыя з'яўляецца родным краем". І зразумела ўсё. І яснасці разам з гэтым... ніякай.

Але чаго хацець, ніводны слоўнік не можа ўмясціць усе фарбы, усю шматграннасць слова. Як, між іншым, і энцыклапедыя, дзе краязнаўства ёсць усяго толькі "вывучэнне пэўнай тэрыторыі, раёна, горада, вёскі ці іншай рэгіянальнай адзінкі пераважна мясцовымі аматарамі". І далей: "Краязнаўства бывае комплекснае, калі вывучаюцца ўсе з'явы ў іх узаемасувязі, і галіновае — гістарычнае, прыродазнаўчае, археалагічнае, этнаграфічнае, геаграфічнае, літаратуразнаўчае, мастацтвазнаўчае і інш. Развіццё краязнаўства звязана з аховай помнікаў археалогіі, гісторыі, культуры, прыроды. Асноўныя метады краязнаўства — збіранне на месцах знаходжання старажытных паселішчаў, гарадзішчаў, замчышчаў, могільнікаў пад'ёмных матэрыялаў, рэчавых помнікаў і іх апісанне, выяўленне дакументаў".

Камусьці мо і падасца вычарпальным у дачыненні да краязнаўства гэтае энцыклапедычнае вымярэнне, але ж агледзьцеся наўкола, задумайцеся, няўжо край наш, боль за яго, любоў да яго, апантанае памкненне мець дасведчанасць у дачыненні да любай стараны — усяго толькі "вывучэнне пэўнай тэрыторыі". Таму і мала, зусім нічога, калі сказаць пра Пархуту — краязнаўца ці то краязнавец. Дык будзем жа лічыць, што назваўшы літаратурную прафесію, жыццёвы выбар Яраслава Сільвестравіча, усё ж растлумачыць увесь сэнс клопатаў літаратара-краязнаўца здолеем мы толькі на працягу ўсяго расповяду пра чалавека з балючым сэрцам і трапяткою душой.

А што ж да прыкладнага вымярэння таго прасцягу, у які хацелася б укласці гэтыя вось хвіліны судакранання з пісьменнікам? Што ж значыць "творчая лабараторыя краязнаўца"? У Пархуты яна адмысловая. Бярэ чалавек у рукі кавеньку, ды і — пешшу, нагамі сваімі вымярае, адлісвае вёрсты. А вочы ды слых, чуйная душа тым часам занатоўваюць для памяці старонкі будучых кніг. Тыя старонкі, адкрываючы каторыя, будзе пасля перажываць, пакутаваць, разважаць з трывогай малады і сталы чытач.

Да адной са сваіх апошніх кніг — "Жальба жытняга коласа" — Яраслаў Пархута ўзяў у якасці эпіграфа такія вось радкі Максіма Багдановіча:

*Ёсць адна толькі мудрасць жыцця,*
*і яе я шаную:*
*Вось што кажа яна:*
*Калі хочаш праўдзіва ты жыць,*
*дык пей чару любую,*
*Але толькі да дна.*

Прызнацца, і карцела спытаць у Яраслава Сільвестравіча пра тое, што ж ён укладвае ў гэтыя словы, які сэнс за багдановічаўскім трапяткім "Калі хочаш праўдзіва ты жыць..." І ўсё ж не спытаў. Неяк няёмка прамалінейна, па-лабавому корпацца ў таемным. Вось жа і ў самога пісьменніка, пры найвялікшым яго жаданні адкрыць, спазнаць як мага больш, трывала вызначаецца пачуццё такту, павагі да субяседніка ці то да героя. Ніякай табе журналісцкай напорыстасці. У знаёмстве з вясковымі дзядулямі і бабулямі, дзядзькамі і цёткамі гэта наўрад ці дапамагло б. Тут трэба спакваля бяседу пачынаць, паспрабаваць у іх скуру ўлезці. Тады толькі і выйдзеш на шчырую, адкрытую размову.

І атрымліваецца... Іначай, пэўна, не было б тут унікальнай па праніклівасці ў чалавечае гора аповесці пра палескага рабінзона "Адзінец". А твор гэты пра Івана Васілевіча Бушылу. Асоба вядомая. У 1990 пра гэтага ляснога чалавека, уцекача ад сталінскіх памагатых, напісалі ці не сотні выданняў. Здавалася б, што тут ужо здолееш яшчэ сказаць. Ды Яраслаў Пархута настойліва вывеў на пачатку твора: "На пачатку 1990 года Тэлеграфнае агенцтва Беларусі распаўсюдзіла паведамленне: "Перавысіў рэкорд вядомага Рабінзона Круза жыхар вёскі Бастынь Лунінецкага раёна Іван Васілевіч Бушыла. Гэтымі днямі ён паявіўся ў роднай вёсцы пасля 42-гадовага пражывання ў глухім лесе ў поўнай адзіноце..."

На Палессе кінуліся газетчыкі ўсіх рангаў, радыёрэпарцёры, фотакоры, тэлежурналісты. Нараджалася сенсацыя года.

Што здарылася на самой справе? Чаму чалавек аказаўся адарваным ад людзей? Як змог пражыць столькі адзінотнікам у лясной глухамані? Хто лепш і праўдзіва раскажа пра гэта, пра той час? Ён сам? Дакументы? Нехта іншы?

Аб гэтым аповесць.

І Яраслаў Пархута, даўшы Бушылу права расказаць самому ўсё як было, здолеў захапіць чытача, здолеў прыцягнуць пільную ўвагу да вострага ўсебеларускага болю на працягу многіх дзесяцігоддзяў. Да таго часу, калі жылі і вёска і горад у вялікім страху: " А ці ж абміне іх хату хапун?"

Да месца ў аповесці і многія дакументальныя сведчанні. Яны ўзяты пісьменнікам з расповядаў землякоў Бушылы, з мясцовай газеты і нават з выступлення сялянкі Бастынь на сесіі Вярхоўнага Савета СССР. Часам дакументальныя сведчанні — яскравае пацверджанне развагаў самога Бушылы. Часам яны ўступаюць у спрэчку, тым самым ствараючы кантраст, абвастраючы тагачасную рэчаіснасць. Але ад гэтага твор толькі выйграе, робіцца больш чытабельным.

Аповесць "Адзінец" — як бы вяршыня, да якой пісьменнік прыйшоў праз дзесяткі і сотні сустрэч з землякамі, праз многія вёрсты вандровак. Ды і яны — вандроўкі — з нечага ж пачаліся...

Вось што расказвае пра пачатак сам Яраслаў Пархута:

— Ёсць выразная руская прымаўка: "Не было бы счастья — да несчастье помогло." Так і са мною здарылася.

Праўда, тут трэба пачаць здалёк. З маіх журналісцкіх гадоў. Дзе ж я толькі не працаваў. У раённых газетах, на тэлебачанні, у абласной газеце. У "Сталинской молодёжи". Нават у ваеннай акруговай. "Суворовский натиск" яна называлася. У Хабараўску.

Журналістыка, заўважу, дала вельмі шмат. Нібы нюх для арыентацыі з'явіўся ў мяне. Дастаткова чалавеку два-тры словы сказаць — я ўжо магу шмат што ўявіць, стварыць і яго партрэт, і карціну пэўнай дзеі. Паралельна займаўся і літаратурай. Пісаў казкі, лірычныя навелы, выходзілі яны ў перакладзе на рускую мову. Але ж была праца і ў аддзеле фельетонаў часопіса "Вожык". Перагрузкі здараліся неймаверныя. Кожная тэма праходзіла праз сэрца.

На рабоце і хапіў мяне інсульт. Страціў зрок, адняло мову, паралізавала. Ледзьве ачуняў... Словам, у бальніцы ў мяне хапіла часу падумаць. Запытаўся ў сябе: "Усё, што раблю, — каму гэта трэба?" Людзям, якія станавіліся ў цэнтры таго ці іншага пытання? Наўрад ці. Поўнай справядлівасці рэдка можна было дамагчыся і праз фельетон нават у "Вожыку". Хутчэй, наша праца была падначалена аднаму. Каб як не пакрыўдзіць чынуш. Каб як мага больш лісліва спытацца ў іх: "Что угодно, господа?"... Я ж і тады не мог мірыцца з дурнотай, фальшам. Непакоіла ўсё гэта, раздвойвалася душа. Быў у нейкай апазіцыі.

На бальнічным ложку і спытаўся ў сябе: "А што ж мог бы зрабіць за гэтыя страчаныя гады?.." Тым больш, што Беларусь я ведаў не звонку. Шмат і да гэтага паездзіў, ведаў традыцыі Бацькаўшчыны, нашага народа. Калі падумаў, то наважыўся — зраблю серыю кніжак пра Беларусь. Так нарадзілася першая вандроўная "манаграфія" — "Жаваранак над полем".

Героямі першай краязнаўчай кнігі Яраслава Пархуты сталіся славутыя нашы землякі. Нічога незвычайнага ў гэтым па сённяшнім часе няма. Але ж тое была другая палова сямідзесятых. А ў героі кнігі пісьменнік пабач з Дзяржынскім і Лепяшынскім абраў Багрыма і Скарыну, Бялыніцкага-Бірулю і Багушэвіча, Ажэшка і Міцкевіча, Каліноўскага і Касцюшку... Да таго ж расказваў Пархута пра гэтых людзей неяк нязвыкла, больш скарыстоўваючы свае ўласныя ўражанні ад сустрэчы з мясцінамі, што падарылі свету славутых пісьменнікаў, грамадскіх дзеячаў, барацьбітоў за волю народа. А выдаўцы патрабавалі іншага. У "Мастацкай літаратуры", дзе кніга праляжала сем гадоў, настойліва параілі:"Увядзіце ў нарыс новыя архіўныя матэрыялы пра Дзяржынскага". Былі і іншыя парады.

— Хацелі зламаць, паставіць на калені, — гаворыць Яраслаў Сільвестравіч. — І дастаткова было мне з нечым пагадзіцца, як і надалей пайшоў бы скакаць пад дудку рэдактараў.

Кніга ўсё ж такі пабачыла свет. Але ў іншым выдавецтве — ва "Ураджаі". Вопыт працы над першай краязнаўчай кніжкай ды вопыт яе выдання акрэслілі перспектыву. Яраслаў Пархута адчуў, што знайшоў сябе. Хаця ж галоўнае яшчэ было наперадзе. Спакваля сфармавалася ўпэўненасць, што шлях абраны правільны. Канешне ж, архівы, бібліятэкі, сталічныя музеі — багатыя скарбонкі памяці. Але ж, лічыць Яраслаў Сільвестравіч, тое, што ў архівах, — не прападзе, не згубіцца. Яно ўжо зафіксавана. А магчыма, і кімсьці выкарыстана для той ці іншай публікацыі. Пархута — шукальнік і збіральнік жывой памяці. Яна далёка не заўсёды перадаецца з пакалення ў пакаленне. Часцей — назаўсёды губляецца. Паспець запісаць, сустрэцца з людзьмі — вось галоўныя клопаты.

— Ужо зараз для мяне гэта сталася і літаратурным і жыццёвым стылем. Рукзак за плечы — і пайшоў выхаджваць свае кніжкі. Вось на "Зямлю бацькоў нашых" пайшло пяць гадоў, — гаворыць Яраслаў Сільвестравіч.

Пісьменнік рашыў расказаць пра самыя-самыя мясціны Беларусі. Пра самае вялікае возера, пра самую-самую раку... І хіба можна было расказаць пра гэтыя геаграфічныя кропкі, скарыстоўваючы толькі вядомае? Пархута ж вывучае мясцовасць, гутарыць з людзьмі, адкрывае новыя легенды, дае тлумачэнне назвам. Як быццам сама зямля гутарыць з чытачом са старонак кніг краязнаўца.

Такі вось ён — пісьменнік, які ў палюддзі збірае свае кніжкі. А многім беларусам дапамагае адолець дарогу вяртання да Беларусі.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**



*На рэпрадукцыі — "На зямлі бацькоў". Так назваў мастак Віктар Барабанцаў карціну, на якой паказаў пісьменніка Яраслава Пархуту.*

КНІГАРНЯ

# З КРАІНЫ СВЯТАСЛАВІІ Ў ЦАРСТВА ПАЭЗІІ

Апошнім часам пайшла мода на разнастайныя мерапрыемствы пад славянскім сцягам. Толькі што ў Віцебску адспяваў-адгалёкаў шчодра разрэкламаваны ў айчынным друку "Славянскі базар", час ад часу падымае адну са сваіх галоваў і сыкае то на беларускую школу, то на беларускую дзяржаўнасць асмялелы "Славянскі сабор". Узнікла й неўзабаве пачне ажыццяўляцца ідэя пабудовы на мяжы трох суверэнных краінаў — Беларусі, Украіны й Расеі — агульнага славянскага храма. Кажуць, нават трое дзвярэй мецьме гэтая праваслаўная святыня — каб чужых кілімаў не таптаць.

У траўні ў Белгарадзе (Расея) прайшлі чарговыя Дні славянскага пісьменства й культуры. Запрошаныя былі паўдзельнічаць-панаглядаць і беларусы. Як жа яны пачуваліся "ў сям'і нялічанай славян"? А нязгорш. Пачынаючы з адкрыцця, на якім нуднае шматслоўе й шматмоўе шматлікіх дакладаў і садакладаў вельмі дарэчна разбавіў прачытаным на памяць вершам Максіма Багдановіча беларускі міністр культуры й друку Анатоль Бутэвіч, і заканчваючы прынагодным экскурсам у часы ранейшыя, моўленым за адвітальным сталом у дуброве кандыдатам гістарычных навук, пісьменнікам Алесем Петрашкевічам. Прыём і догляд замежных дэлегацый адпавядаў самым высокім патрабаванням, і наўрад ці нехта павёз дадому камень за пазухай, падабраны на гасціннай белгарадскай зямлі. Але калівы непрыемных згадак у душы, на жаль, засталіся.

Напрыклад, ці варта было клікаць на свята беларусаў ды ўкраінцаў, каб падчас навуковай канферэнцыі гаварыць пра нейкую "усечённую Русь", якую не шкодзіла б "надтачыць" за кошт "издревле родных" земляў? На адным з пасяджэнняў давялося пачуць увогуле адыёзную ідэю — аб'яднаць усе (!) славянскія землі ў адну краіну Святаславію са сталіцай, натуральна, у Маскве. І выказаў гэтую ідэю не абы-хто, а славуты скульптар Вячаслаў Клыкаў, які заставіў паў-Расеі манументальнымі помнікамі й да якога на заключным банкеце, каб чокнуцца, чаргу займалі й артысты, і міністры, і святары розных рангаў.

У выдадзенай да свята прыгожай каляровай кніжыцы "Славянский мир" можна было прачытаць вершы й мудрыя выслоўі І.Нікіціна, А.Кальцова, А.Салжаніцына, М.Гогаля. Абзываўся да чытача па-ўкраінску Тарас Рыгоравіч. А Янку Купалу прымусілі з людам паспалітым паразумецца, вядома ж, па-расейску. Беларусы ж не пакрыўдзяцца. Але ці не пакрыўдзяцца балгары, славакі, македонцы, палякі, што над іх галавамі падчас святочных мітынгаў і шэсцяў трапяталі чорна-жоўта-белыя "славянска-сабораўскія" сцягі?

Падобныя святы, у якой бы краіне яны ні адбываліся, павінны спрыяць узаемнаму культурнаму абагачэнню, а не прыніжаць годнасць і гонар удзельнікаў. Сярод прыемных уражанняў, правезеных праз чатыры мытні дамоў, на Беларусь, часцей успамінаецца знаёмства з польскай паэткай Ганнай Піўкоўскай, чыю з густам выдадзеную кніжку "Цень на сцяне" я прачытаў яшчэ ў белгарадскім гатэлі. Спадзяюся, што азябла-крохкія парасткі вершаў пані Ганны не надта пацярпелі пры перакладзе, і пульсуючую ў іхніх жылах светланосную энергію змогуць адчуць не спеставаныя паэзіяй чытачы "Культуры".

**Міхась СКОБЛА**

## Ганна ПІЎКОЎСКА

### УСПАМІН З ВАНДРОЎКІ

*У апусцелым маёнтку на крэсах,*
*у Богам забытым павеце без назвы*
*чакаю Цябе. З пазалочаных крэсак*
*склаў месяц на ставе малюнак выразны.*

*Так маюць пачацца ўспаміны з вандроўкі.*
*Крылцуе матыль фантастычна ля лямпы.*
*Бярэ алебарду сваю наўзгатоўкі*
*й натомлена месяц крадзецца да клямкі.*

*Дыханнем раздвоіўшы покрыва ночы*
*іду да Цябе па драўляных прыступках.*
*А парк, што пад сонцам рассохся як ночвы,*
*замер і аб дахі галінкай не стукне.*

*Іду да Цябе па начным наваколлі,*
*іду як памесяўнік — каб не гукнулі...*
*Праз двор, на які не ступалі ніколі,*
*пад зоры, што ў ставе за ноч патанулі.*

### МЯСТЭЧКА

*Мястэчка, ў туманах адбельваючы дахі,*
*ачуньвае патроху ад карнавальных шэсцяў.*
*Касцельных вежаў стомленыя ўзмахі,*
*і ў храме хлопец, бы ў чаканні дабравесця.*



*Мазаіка падлогі выстуджвае пламені,*
*паглядваюць з ікон святыя іранічна.*
*Рахмана хлопец апусціўся на калені,*
*а сам, блюзнер, дзяўчыну ў сваё сэрца*
*кліча.*

*Над галавой скляпенні, а мроіцца гарышча,*
*дзе павута сплялася у срэбныя карункі,*
*дзе вецер-падглядач пад лежакамі свішча*
*і прадзедаў пыляцца таемныя рыштункі.*

*Каханне і рамантыка тут жыцьмуць вечна —*
*здаецца, а на вежы бомкне звон пануры —*
*і ператворыцца лірычнае мястэчка*
*у блякла-шэрую звычайную гравюру.*

### ЗРЫНУТЫ АНЁЛ

*Мякка ходзіць па хаце, быццам цацачны,*
*з плюшу.*
*Як маліцца й каму, каб былое ўваскрэсла?*
*Хто зашэпча анёлу збалелую душу?*
*Сеў ён, бы чалавек, у высокае крэсла.*

*Плашч чырвоны адкінуўшы з белым*
*падбоем,*
*сеў анёл, па-нябеснаму светлы й прыгожы,*
*на далоні трымаючы перад сабою*
*чаравічкі, што скінуты з точаных ножак.*

*І убегла ў пакой басаногая панна,*
*падміргнула анёлу, чаравічкі абула*
*і на крылы, што віслі за спінай заспана,*
*як на белае воблака, злёгку дзьмухнула.*

*І анёл летуценна прымружвае вока,*
*і яму даравання ад Бога не трэба.*
*І сядзіць ён, узвышаны ў крэсле высокім,*
*і шчаслівы, і вечны, і зрынуты з неба.*

### ПАВОДЛЕ ШАГАЛА

*У вежавым гадзінніку жывуць мроі*
*закаханых,*
*у букетах, у скрыпках і далікатных смычках,*
*у сподках з танюткай парцаляны,*
*у белі абрусаў і фіранак,*
*у карунках складзеных у шафе адзежын,*
*накрухмаленых абыякавымі рукамі жонкі,*
*зямной, непрыгожай, нялюбай,*
*з вачыма і вуснамі,*
*гатовымі кінуцца ў лямант.*
*.................................................*
*У музыцы жывуць мроі закаханых,*
*у маладзіку, ветаху і поўні,*
*у васковых свечках і пляйстрах мёду,*
*у спазненнях без дай прычыны,*
*у выпадковых здрадах, няпраўдах*
*і прабачаннях,*
*у чуллівасці, што серабрыстым плачам*
*сплывае па смуглявых шчоках*
*і ўрэшце застывае ў рэчышчах маршчынаў*
*раптоўным днём, які няўзнак пабляк.*
*.................................................*
*У вежавым гадзінніку жывуць мроі*
*закаханых.*

**Пераклад з польскай мовы Міхася СКОБЛЫ**

# ПЛАСТЫЧНЫ СУСВЕТ ГЕОРГІЯ ЛОЙКІ

Кожны мастак цікавы сваёй прысутнасцю. Ёсць розныя формы яе выяўлення. Як самыя ганаровыя — выставы ў вялікіх, багатых на мастацтва, гарадах. Як форма прызнання — уваходжанне ў прыватныя калекцыі. І яшчэ — альбомы. У мастацкім лёсе іх часцей за ўсё няшмат. Адзін-два-тры...Часам мастак не паспявае выдаць свой індывідуальны альбом. Як сёння, то рэдка хто і ўвогуле можа выдаць. Хаця, між іншым, альбом і ёсць, на мой прыватны погляд, найбольш выразная форма пастаяннай прысутнасці мастака ў нашым уяўленні.

Вось і Георгій Лойка, падараваўшы гледачу шанц мець выставу яго твораў ва ўласнай бібліятэцы, дапамог пашырыць уяўленне аб ім, зрабіць больш трывалай мастакоўскую прысутнасць. Палотны ж мастака знаходзяцца не толькі ў музеях і карцінных галерэях Мінска, Гродна, Мазыра, Масквы, але і ў многіх прыватных зборах. Вось толькі іх геаграфія — Беларусь, Расія, Англія, Італія, Украіна, Эстонія, Літва, Латвія, Польшча, Францыя, Германія, Грэцыя, Ізраіль, ЗША, Аўстралія, Куба, Канада, Іспанія. І хіба пад сілу агледзіны ўсяе гэтай прасторы ў дачыненні да твораў нашага земляка?! Так, з дапамогаю толькі што выдадзенага альбома Георгій Лойка "Мастак і яго пластычныя сусветы" агледзіны магчымыя. Тым больш, што і дарадца, памагаты самы што ні на ёсць вопытны і дасведчаны — укладальнік і аўтар тэксту Барыс Крэпак.

Ужо на самым пачатку размовы пра мастака мастацтвазнаўца трапна акрэсліў месца Георгія Лойкі ў кантэксце сучаснага беларускага жывапісу: "Бываюць часіны, калі на дрэве нашага нацыянальнага мастацтва раптоўна, як почкі ўвесну, абуджаюцца парасткі новага. Такім часам, думаецца, былі на Беларусі і 70-я гады. Маладыя мастакі, якія прыйшлі тады ў жывапіс, вызначыліся абвостранай зоркасцю, яны адмаўлялі бяздумную фіксацыю і лакіроўку рэчаіснасці. Для іх характэрны раскаванасць і філасафічнасць мыслення, імкненне зразумець маральныя і эстэтычныя асновы быцця. У іх творчасці ўзнікаў сінтэз новых мастацкіх канцэпцый і нацыянальных традыцый, яны праявілі павышаную ўвагу да ўнутранага свету чалавека, да гераічнай і трагічнай гісторыі Айчыны. Іх палотны перапаўняла любоў да Беларусі, жыцця, чалавека.

Да гэтага пакалення належыць і Георгій Лойка."

Адна з першых рэпрадукцый, што адкрывае альбом, — "Аўтапартрэт з піялой". Праца гэтая выканана ў 1972 годзе. А перад гэтым за шэсць гадоў яшчэ малады тады мастак упершыню прыняў удзел у 2-й рэспубліканскай выставе — прапанаваў гледачу маляўнічы "Аўтапартрэт", і ў першай, і ў другой працах (гэтую адметнасць заўважыў, падкрэсліў і Б.Крэпак) мастак праяўляецца як творца з пільным, вострым позіркам. Праўда, што датычыцца другога аўтапартрэта, "у псіхалагічнай характарыстыцы высвечваецца крыху большая ўпэўненасць у сабе, крыху большая мудрая яснасць разумення жыцця. Гэтаму спрыяе і дэкаратыўны фон, арганічна ўваходзячы ў маляўнічую аповесць пра чалавека, дапаўняючы і развіваючы яго ўнутраны свет".



*Георгій Лойка. Зімняя цішыня. Палатно, алей.*

З цікавасцю гартаючы старонку за старонкай альбом Георгія Лойкі, з не меншай цікавасцю раз-пораз вяртаешся да ўступнага артыкула Барыса Крэпака. Выконваючы сваю "тлумачальную", так бы мовіць, задачу, мастацтвазнаўца не проста пераказвае хроніку жыцця і творчасці свайго героя. Барыс Крэпак акцэнтуе ўвагу на найбольш вострых, найбольш важных момантах у творчай біяграфіі Георгія Лойкі. Згодна з гэтым пераканаННем ужо як укладальнік мастацтвазнаўца і сфармаваў альбом, што таксама вельмі важна.

Відавочна па ўсім, што ні мастак, ні яго памагаты Барыс Крэпак не кіраваліся ў падборы рэпрадукцый правілам надзённасці, жаданнем дагадзіць часу. Таму і суседнічаюць Янка Купала і Пуліхаў, пейзаж з касцёлам і мантажнікі Наваполацкага хімічнага камбіната... Кан'юнктура заўсёды адыходзіць. Застаецца галоўнае — мастацкасць.

Уражвае ў альбоме багацце пейзажных работ. Як быццам уся Беларусь распасцірае свае прасторы на палотнах Георгія Лойкі. "Браслаў", "Над возерам", "Восень на Бярэзіне", "Дарога на Ракаў", "На Любаншчыне" — гэтыя і іншыя краявіды вядуць у захапляючае падарожжа, прымушаюць па-новаму паглядзець на знаёмыя і, здавалася б, адкрытыя раней пейзажы.

Пра тэхнічнае выкананне альбома. Выдадзены ён Міжнародным інфармацыйным агенцтвам "Рэкламэкспарт" пры ўдзеле Вопытна-канструктарскага бюро медыцынскай дыягнастычнай тэхнікі. Рэдактар альбома — А.Чарнышова. Наклад — 5000 асобнікаў. Аддрукаваны альбом на Мінскай фабрыцы каляровага друку. Відавочна па ўсім (і якасць паліграфічнага выканання, і тэксты на дзвюх замежных мовах — англійскай і нямецкай), што альбом зарыентаваны на замежнага пакупніка. Усе гэта добра, але шкода, што пра беларускі тэкст у альбоме забыліся. Маўляў, ёсць тэкст на рускай і замежных мовах — і хопіць. Агульнае афармленне альбома належыць Ю.Дзееву. Аўтар здымкаў — В.Грабянькоў.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# КАРЭЛІЦКІ КНІГАЛЮБ

У цыкле мерапрыемстваў "Сустрэча з цікавым чалавекам" адбылося знаёмства чытачоў Карэліцкай цэнтральнай бібліятэкі з Пятром Паўлавічам Сачыўкам. Гэты чалавек з ранняга дзяцінства ўлюбёны ў кнігу. Мае вялікую ўласную бібліятэку. Працуе Пётр Паўлавіч настаўнікам Варанчанскай школы.

Яшчэ ў маладосці ён прыйшоў да высновы, што самае каштоўнае ў чалавечым жыцці — кнігі. Нарадзіўся ў 1926 годзе на Гомельшчыне ў вясковай сям'і. Чытаць пачаў вельмі рана. Калі равеснікі яшчэ толькі вучыліся чытаць па складах, хлопчык ужо адолеў буквар і чытаў газеты. Малога цікавілі таямнічыя замежныя краіны, экзатычная прырода далёкіх мацерыкоў. Першая прачытаная ім кніга была "Маўглі", якая і зараз з'яўляецца любімай. Мае вясковы настаўнік яе некалькі выданняў, адно — нават з дарэвалюцыйных часоў.

Кнігі дазволілі юнаку больш поўна, ва ўсёй прыгажосці пазнаць свет. Таму невыпадковым стала рашэнне — быць настаўнікам. Ён лічыць, што педагог, у першую чаргу, павінен быць эрудытам, цікавым субяседнікам, добразычлівым чалавекам. Усе гэтыя якасці ў поўнай меры прысутнічаюць у Пятра Паўлавіча. Пасля заканчэння Гомельскага педагагічнага інстытута ён выкладае фізіку і астраномію на Карэліччыне. Спачатку — у Ярэмічах, потым — у Цырыне, апошнія гады у Варончы.

І заўсёды разам з ім кніга. Кнігі Пётр Паўлавіч пачаў збіраць яшчэ да вайны. На жаль, першапачатковы збор у гады вайны загінуў. Але гэта не перашкодзіла здзейсніць дзіцячую мару — мець уласную добрую бібліятэку. Яшчэ ў студэнцкія гады ён падпісаўся на Вялікую Савецкую Энцыклапедыю. Грошы на кнігі даводзілася зарабляць і даволі цяжкай працай: пілаваць дровы, разгружаць вагоны.

Вынік гэтай нялёгкай карпатлівай працы па набыцці літаратуры — цудоўны! Прыватны кнігазбор па колькасці роўны любой сельскай бібліятэцы, па каштоўнасці яшчэ больш значны: у ім — рэдкія выданні канца мінулага стагоддзя і пачатку гэтага, лепшыя кнігі апошніх гадоў.

У любым узросце Пётр Паўлавіч заўсёды з кнігай. Пазнае нязведаныя таямніцы. Нават сёння ён у адзін дзень можа прачытаць дзесьці трыста пяцьдзесят старонак з выдатным засваеннем тэксту.

Ахвота да чытання прымусіла быць больш прагматычным, цудоўныя незвычайныя мясціны захацелася ўбачыць. Так кнігалюб стаў падарожнікам. Пётр Паўлавіч наведаў дваццаць краін свету: Англію, Індыю, Лаос, Кувейт і іншыя. Вандраваў па Аравійскай пустыні, быў на Канарскіх, Балеарскіх, Арктычных астравах, бачыў тайгу і тундру ў першароднай прыгажосці. Былы Саюз праехаў уздоўж і ўпоперак. Падарожнічаў на байдарках, шлюпках і нават вярблюдах.

Любоў да кнігі дапамагла Пятру Паўлавічу прыдбаць новае хобі: нумізматыку і філатэлію.

Пётр Паўлавіч не толькі любіць і ведае кнігу, але і з'яўляецца яе апантаным папулярызатарам. На працягу трох месяцаў у чытальнай зале Карэліцкай цэнтральнай бібліятэкі дзейнічала выстава рэдкай кнігі з прыватнага кнігазбору карэліцкага кнігалюба. На ёй былі прадстаўлены многія каштоўныя выданні з яго калекцыі. Гэта "Всемирная история" Брокгауза и Ефрона, 1910г., "Жизнь и удивительные приключения Робинзона Крузо, иоркского моряка, рассказанная им самим" Д.Дефо, 1897г., "Европа", 1904г., "Россия. Полное географическое описание нашего Отечества", 1907; часопісы: "Новая иллюстрация" — мастацкі-літаратурны за 1909 г., "Книжки недели" — штомесячны літаратурны за 1905 г., "Родина" — для сямейнага чытання за 1903 г. і мноства іншых.

**Л.ТУРМАСАВА**

АВАНСЦЭНА

# ІХНІЯ "СТРАСЦІ"



*"Хто выракаецца ад мінулага, выракаецца ад будучыні".*

***Урсула ле Гуін***

*Прэм'ера, якую знаўцы балету некалькі гадоў чакалі, потым ужо не чакалі, потым чакалі зноў, нарэшце адбылася.*

*Балет "Страсці" ("Рагнеда") на музыку заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі кампазітара Андрэя Мдзівані, аб прэм'еры якога ў Вялікім Акадэмічным тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь (26 і 28 ліпеня) ідзе гаворка, зводзіць у адно дзве найбольш яркія падзеі старажытнай гісторыі Беларусі: разбурэнне Полацка наўгародскім, а пазней кіеўскім князем Уладзімірам пасля адмовы полацкай княжны пайсці за яго, і хрышчэнне Русі. Народны артыст СССР і Рэспублікі Беларусь, галоўны балетмайстар і мастацкі кіраўнік тэатра Валянцін Елізар'еў, як і заўсёды, аказаўся "антыкан'юнктурны". Нацыянальная тэма перастала быць папулярнай у нашага народа і магла б гучаць дысанансам падзеям апошніх месяцаў, калі б не ўласцівая балетмайстру смеласць у пастаноўцы і вырашэнні пазачасавых і пазанацыянальных праблем. Таму спектакль атрымаўся не проста гістарычнай драмай, хаця сюжэт і трымаецца першакрыніц, а дэкарацыі і касцюмы (мастак В.Окунеў) дазваляюць гледачу лёгка адчуць эпоху. Спектакль усё ж такі не стаў гістарычнай ілюстрацыяй, гэты балет аб каханні і нянавісці, аб жыцці і смерці, аб ліхадзействе і даравнні.*

*Кошт кожнага спектакля высокі. Мабыць, менавіта ў час рэпетыцый нарадзілася другая і канчатковая назва балета — "Страсці". Вось што кажуць аб балеце, аб сваёй працы, аб сабе выканаўцы вядучых партый розных саставаў — тыя, каго гледачы ўжо бачылі на прэм'еры, і тыя, хто таксама ствараў спектакль, але каго мы ўбачым у ім пазней:*

***Аляксандр ФУРМАН (Яраполк, князь кіеўскі):***

— Упершыню мы сутыкнуліся з вельмі складанай сучаснай музыкай. Цела спачатку "не чула" яе, доўга "замінала", пакуль не пачало "дапамагаць" танцу, само падказваць рашэнні. Мне доўга было незразумела, што я павінен рабіць. Роля цяжкая сама па сабе, гэта кіеўскі князь, не абы які, ён звергнуты ўласным братам, пазбаўлены нявесты, прастола, асляплены і ў рэшце рэшт забіты! Тут было над чым падумаць, папрацаваць, асэнсаваць і праўдзіва выканаць вобраз. Спачатку ён — рамантычны, закаханы ў полацкую князёўну юнак. У другім акце, нягледзячы на яго паражэнне, усё ж такі хацелася б паказаць мужны характар. Гэта ж князь, ён Вялікім Сталом кіраваў, якім-небудзь чынам гэта павінна праяўляцца — ці ў жэстах, ці ў чым іншым. Тут для акцёрскай рэалізацыі бязмежныя магчымасці. Ёсць вельмі моцныя месцы. Елізар'еў хаця і не дазваляе свавольнічаць, але вітае, калі выканаўца пастаўленую яму задачу вырашае сам ці ўзмацняе прапанаванае пастаноўшчыкам рашэнне. Такім чынам, праца над роллю ідзе пастаянна.

***Таццяна ШАМЕТАВЕЦ (Анна Багранародная, візантыйская цароўна):***

— Складанасць майго вобраза — не толькі ў тым, як ён намаляваны ў лібрэта: заморская цароўна, што прыехала, каб абваражыць кіеўскага князя і ягоны народ, падпарадкаваць Русь уплыву сваёй радзімы, Візантыі, у тым ліку і праз новую рэлігію — хрысціянства. Складанасць таксама і ў адсутнасці дастатковых звестак аб тым, якая яна была, гэтая цароўна — злая ці добрая, сціплая, бязлітасная, цынічная ці праведніца?

Валянцін Мікалаевіч толькі пазначыў маю лінію, а дэталі дазволіў дапрацоўваць самой. І зразумела, не абышлося без творчых канфліктаў, ды якіх! І ўсё ж такі мне было дзе праявіць свае акцёрскія рысы. Дарэчы, і з боку танца партыя Анны — не з простых, гэта партыя кампактная, насычаная тэмпавымі пераходамі і патрабуе досыць многа фізічных высілкаў. На прэм'еры — праўду кажучы, толькі на прэм'еры — я адчула смак гэтай ролі.

Пастановачныя рэпетыцыі ішлі пад раяль, канцэртмайстар чуйна ўлоўлівала жаданні пастаноўшчыкаў і выканаўцаў. А калі мы нарэшце пачулі аркестр — усё аказалася інакш! Іншы тэмп, здаецца, іншая мелодыя! Усё прыйшлося рабіць нанова. Генадзь Праватораў вельмі шмат працаваў з аркестрам, "сабраў" яго, і не адразу, але аркестр загучаў, пад яго стала магчыма танцаваць, яго стала магчыма слухаць. Сюрпрызам быў, зразумела, фінальны харал, з жывымі галасамі. Цікавае рашэнне — размясціць хор у глядзельнай зале на верхнім ярусе. Гэта і працяг дыялога з гледачом — нібы адказ на сцэнічныя падзеі. І ў той самы час гэта робіць глядзельную залу падобнай да храма — па асацыяцыі з царкоўным хорам. Фінальная сцэна, мальба аб даравнні за "справы няправедныя", атрымалася, здаецца, вельмі моцнай.

***Веніямін ЗАХАРАЎ (Уладзімір, князь наўгародскі, князь кіеўскі):***

— У самы разгар рэпетыцыйнай працы (май — пачатак чэрвеня) мы з жонкай — Кацярынай Фадзеевай — з'ехалі ў Францыю для ўдзелу ў праграме "Этуаль дэ ля данс" ("Зоркі танца"), куды мы былі запрошаны разам з выканаўцамі з Кіева, Масквы, Варшавы. І з сабой я прывёз кантракт, па якім было трэба працаваць у Канах з 25 ліпеня. Але я адразу сказаў Елізар'еву, што адмаўляюся ад гэтага кантракта. Кантракты яшчэ будуць, а прэм'ера — гэта прэм'ера. Праца была даволі цікавая, прынамсі для мяне. "Страсці" — назва больш удалая, чым "Рагнеда". Лінія Рагнеды нават не такая яркая, як Уладзіміра, на мой погляд. Уладзімір — усё ж асоба прагрэсіўная, я шмат чытаў пра яго, у розных крыніцах па-рознаму аб ім кажуць. Трэба памятаць, які час быў. Сваёй жорсткасцю ён абавязаны свайму часу і свайму становішчу — ахрысціць Русь інакш, чым агнём і бізуном, мабыць, нельга было. Ён меў шмат жонак, але — у інтарэсах дзяржаўнай выгоды — палічыў за лепшае ажаніцца з візантыйскай цароўнай. Мне хацелася б дадаць высакароднасці Уладзіміру, усё ж ён быў не дзікун, а князь. Хаця Рагнеда і казала: "Не хачу разуці рабыніча" — маючы на ўвазе, што маці ягоная была рабыняй, але на самой справе ягоная маці была драўлянскай князёўнай, якую ўзялі ў палон кіеўскія князі. Нават па крыві Уладзімір — сапраўдны князь. І характар у яго княжацкі, ён — запальчывы, але здольны ўмомант сабрацца, часам — сапраўдны звер, але адразу ж і халодны дзяржаўны розум. Мне такія партыі вельмі падабаюцца. І добра, калі на сцэне побач такія партнёры, як Іна Душкевіч, Таццяна Шаметавец — вельмі добрыя актрысы. Тады ёсць жыццё на сцэне, узаемааддача, тады не проста паказваеш, а пражываеш вобраз.

У гэты раз як ніколі шмат бутафорыі — мячы, кінжалы, праклятыя боты — дарэчы, цяжкія, амаль па тры кілаграмы, ад іх вельмі стамляешся. І ўпершыню, наколькі я ведаю, Елізар'еў дапусціў на сцэну дзіця — ролю юнага князя Ізяслава выконвае дзяўчынка з харэаграфічнай вучэльні, Вольга Камарова. Ёй, вядома, цяжка даецца гэты досыць няпросты — як і ўсё ў спектаклі, вобраз. Здаецца, на прэм'еры яна ўжо "дайшла" да яго разумення.

Наш спектакль — гэта не толькі харэаграфія, гэта таксама складаныя дэкарацыі, арматуры, заднікі, дым. Менавіта таму, відаць, яго не ўдасца вывезці на гастролі, але ў нашым тэатры ён, безумоўна, будзе ісці. У чым Елізар'еў апроч усяго моцны — ён вялікі майстар рабіць шоу, вельмі моцны рэжысёр. Напачатку, без касцюмаў і дэкарацый, я нават сумняваўся, ці атрымаецца што-небудзь. Але Елізар'еў ёсць Елізар'еў — ён не дапусціць пасрэднасці.

***Інэса ДУШКЕВІЧ (Рагнеда, князёўна полацкая)***

*(Інэса Анатолеўна заўжды — і зараз — цалкам выкладваецца на спектаклі. "Я ўсё сказала на сцэне", — і гэта сапраўды так. Уніклівыя роспыты былі б бесчалавечныя. У яе калег я даведаўся, што, рыхтуючыся да спектакля, яна ездзіла ў старажытны Полацк, на радзіму Рагнеды, была ля "Барысавага Каменя", у Сафійскім саборы, стаяла на высокім беразе Дзвіны; бачыла дзвінскую прастору і палёт чаек. Мабыць, адсюль і характэрны малюнак танца Рагнеды — "палёт птушкі, чайкі". Адсюль — і таксама з вывучэння вялікай колькасці крыніц — і яркі, напоўнены сэнсам увесь яе танец. А Рагнеда на сцэне — ад першай да апошняй карціны, ад 14-гадовай дзяўчынкі да сталай жанчыны, маці юнага князя Ізяслава — так і засталася нескаронай полацкай князёўнай. "Пасля прыняцця хрысціянства князь Уладзімір мусіў адмовіцца ад свайго "гарэма" і адпусціў Рагнеду з Ізяславам на бацькаўшчыну, у Полацкае княства.)*

Кажуць, прэм'ера — гэта яшчэ не спектакль. Але гэтая прэм'ера — безумоўна, эфектны фінал, надзвычай удалае завяршэнне працяглага і плённага балетнага сезона. Тэатральны сезон 95/96 года адкрыецца 13 верасня, па традыцыі, спектаклем "Лебядзінае возера". І, зразумела, гледачы яшчэ не раз убачаць і перажывуць разам з выканаўцамі — "Страсці".

**Ігар КЛОКАЎ**

# "КОЖНЫ АКЦЁР ПАВІНЕН МЕЦЬ СВОЙ СПЕКТАКЛЬ..."

***Львоўскі музычна-драматычны тэатр імя Ю.Драгобіча добра знаёмы гледачу краін СНД. Аб сённяшнім дні тэатра гаворыць у інтэрв'ю галоўны рэжысёр Уладзімір Грыцак.***

**— Уладзімір Сямёнавіч, як Вам удаецца як галоўнаму рэжысёру-пастаноўшчыку захаваць творчы і індывідуальны стыль тэатра?**

— У гэтым калектыве я працую нядаўна — другі сезон. Дарэчы, мяне запрасілі сюды на працу з Івана-Франкоўска. Спачатку я паставіў тут "Выкрастку" Ю.Тагабочнага, а потым калектыў тэатра пажадаў са мной працаваць пастаянна.

Думаю, што любы тэатральны калектыў не зможа паспяхова працаваць, калі не ўмее адчуваць павеваў часу. Наш тэатр знаходзіцца ў мясцінах, дзе заўсёды бывае вялікая колькасць народу — асабліва на такіх курортах, як Трускавец і Моршын, і вядома, каб зацікавіць гэтага гледача, трэба адчуваць да ўсяго і яго запытанні.

Калі я пачаў працаваць з калектывам, я паспрабаваў даць творчую свабоду артыстам (кожны акцёр павінен мець свой спектакль), узбагаціць рэпертуар рознымі жанрамі, а таксама прыцягнуць да работы работнікаў розных відаў мастацтва. Спатрэбіўся час, каб паступова і непрыкметна перабудаваць работу калектыву і ні ў якім разе не зламаць набытага тэатрам раней.

За пройдзены час я паставіў пяць спектакляў, сярод іх "Мачаха" па матывах твораў А.Бальзака, "Парк, арамат траваяднай ночы" Л.Касомы і іншыя.

У нашай трупе ёсць шмат акцёраў, якія працуюць у тэатры сем'ямі. Вось для заслужанага артыста Украіны Мікалая Шумевіча і Ніны Шумевіч, бацькі і маці гэтай творчай дынастыі, мы робім бенефіс. Нельга не адзначыць і другі сямейны ансамбль — з бацькі, сына і маці Сенюкаў. Гэтая акалічнасць таксама станоўча ўплывае на нашу агульную працу.

Трэба дадаць, што на Украіне няма ніводнага такога тэатра як наш, які б выязджаў на гастролі ў тыдзень па 2-3 разы.

Так выступаць перад гледачом магчыма, калі мець пэўныя любімыя ім пастаноўкі. З вялікім поспехам пры перапоўненай зале ідзе дзіцячая казка "Усе мышы любяць сыр" паводле твора венгерскага пісьменніка Д.Урбана. А спектакль "Шлюб па агалошанні" У.Каніўца мы паказалі ўжо больш за 300 разоў.

Сам я таксама акцёр, маю тэатральную адукацыю — скончыў Кіеўскі Дзяржаўны інстытут тэатральнага мастацтва па спецыяльнасці рэжысура. Свае задумы я больш за ўсё стараюся ўвасабляць у жыццё праз творчасць акцёра, імкнуся знайсці з трупай агульную мову.

**— Сёння мясцовыя тэатралы і госці з аднолькавы поспехам могуць паглядзець у Вас як сучасную п'есу, так і класіку. Пэўна, гэта творчае дасягненне ўсяго калектыву?**

— Сапраўды, у калектыве ёсць чым ганарыцца. Мы неаднаразова звяртаемся да творчасці У.Каніўца, які шмат піша на сучасную тэму, далікатную і патрэбную. Увогуле я імкнуся браць больш еўрапейскую сусветную класіку. Хацелася б, безумоўна, тут знайсці і сучасную добрую п'есу, але, на жаль, яе няма.

Прыцягнула маю ўвагу п'еса "Каўчэг" нашага земляка В.Бісовіча. Гэты твор адлюстроўвае становішча, якое ўтварылася ва ўзаемаадносінах людзей у наш час, імкнецца вырашыць праблему чалавечнасці.

З поспехам ідзе і пастаноўка "Каменная душа" па п'есе Г.Хаткевіча, яна належыць да ўкраінскай класікі і расказвае аб жыцці гуцулаў.

Гэта своеасаблівая музычная рамантычная легенда Карпат, дзе многа песень, танцаў. Касцюмы герояў і ўвесь іншы рэквізіт — усё блізкае да народнага жыцця.

Стварылі і пастаноўку "Слёзы Марыі". Яна апавядае аб самым жудасным часе, які перажыла Украіна — у 20-30-я гады. Прычым мы імкнемся перадаць гэту трагедыю не ў выглядзе мора крыві, а праз паэзію душы чалавечай. Наш спектакль падкрэслівае: людзі здолелі зберагчы добрыя чалавечыя якасці нават у такіх жорсткіх абставінах. Гэты твор сугучны з сённяшнім нялёгкім днём.

Твор фінскага пісьменніка Вуаліёкі стаў перадасновай для з'яўлення спектакля "Маладая гаспадыня Ніскавуоры". Зноў жа гэта будзе пастаноўка аб чалавечых пачуццях.

**— Нельга не адзначыць, з якім натхненнем Ваш калектыў ставіць свае спектаклі на роднай украінскай мове. Яна ззяе ў вас усімі незабыўнымі яркімі фарбамі. А гэта таксама вялікі поспех.**

— Гэта ўсё здабыткі той акалічнасці, што мы вядзем зносіны на роднай мове Украіны. Гэта першая неабходная ўмова, якая вызначае работу тэатра. Характэрна, што ў большасці сваёй у нас працуюць акцёры з тутэйшых месц. Безумоўна, гэта аблягчае нашу задачу авалодання мовай.

**— На каго Вы сёння арыентуецеся ў рабоце, што ставіце ў аснову погляду на сучаснае жыццё, чым кіруецеся ў падборы рэпертуару?**

— Наш калектыў, безумоўна, перш за ўсё мае свае творчыя традыцыі. Цесна супрацоўнічаем і з іншымі тэатральнымі трупамі — Львоўскім акадэмічным дзяржаўным тэатрам імя М.Занькавецкай. Запрашаем адтуль мастакоў і ўвогуле вядомых мастакоў з іншых гарадоў. Гэта мастак Днепрапятроўскага ТЮГа Уладзімір Міколюк, які належыць да авангардыстаў. Творчасць яго заўсёды неспадзяваная.

**— Сёння шмат кажуць, што другое дыханне тэатру надаюць яго добраахвотныя прыхільнікі — энтузіясты-спонсары. Як у Вас пастаўлена справа на гэты конт?**

— Наш калектў пастаянна падтрымлівае і фундуе Львоўскае абласное ўпраўленне культуры, а падчас якіхсьці ўрачыстасцей знаходзім і добрых памочнікаў. Калі ў тэатры ў мінулым годзе адзначалі юбілей народнага артыста Украіны Георгія Іванавіча Маразюка, гэта мерапрыемства вылілася ў свята ўсяго горада Драгобыча (там базіруецца тэатр). Свае фінансавыя адлічэнні зрабілі на той дзень шмат мясцовых прадпрыемстваў — Драгобыцкі аўтакранавы і нафтаперапрацоўчы заводы, мясакамбінат, птушкафабрыка, а таксама фірма ПЛЕССО.

**— Уладзімір Сямёнавіч, мне вельмі прыемна бачыць, што ў Вас побач са старымі майстрамі сцэны працуе таленавітая задзірлівая моладзь. Пэўна, Вам удаецца гэты ансамбль утрымліваць...**

— Трупа тэатра налічвае 38 чалавек розных творчых прафесій. Ёсць у нас і свой аркестр пад кіраўніцтвам кампазітара Мікалая Мыхаця. Безумоўна, у нас ёсць таленавітая моладзь. Сярод маладых выканаўцаў падаюць добрыя надзеі Ала Шкондзіна, выпускніца студыі імя Марыі Занькавецкай Таня Лучэйка і іншыя. Прытым мы маем намер павялічыць калектыў і запрасіць да нас працаваць артыстаў балета, а таксама здольных студэнтаў з мясцовых інстытутаў і зрабіць з іх акцёраў. Я таксама бываю на выпускных экзаменах у Кіеўскім тэатральным інстытуце, дзе маю надзею знайсці яшчэ аднаго рэжысёра.

У тэатра ўсталяваліся добрыя творчыя кантакты з маладым геніяльным музыкантам Аляксандрам Казарэнкам, які з намі плённа супрацоўнічае.

**— Ці збіраецеся Вы сустрэцца з нашым беларускім гледачом? Я ўпэўнена, у Вас бы атрымаўся з ім цікавы насычаны дыялог, якога, на жаль, нам яшчэ не хапае.**

— Я вельмі часта наведваў Беларусь сам і захаваў аб гэтым цудоўным краі самыя цёплыя ўспаміны, быў асабліва зачараваны яго людзьмі. Вядома, што калі зявіцца такая магчымасць, мы яе не абмінём.

**Інтэрв'ю ўзяла Алена АЛЯКСЕЕВА**

## У ПОШУКАХ ІСЦІНЫ

# ЯСАЧКІ ДУХОЎНАСЦІ

У КАНЦЫ XVIII стагоддзя на тэрыторыі Беларусі, далучанай да Расійскай імперыі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай, акрамя хрысціянскіх канфесій (каталіцтва, уніяцтва, праваслаўе, пратэстанцтва, стараверства) існавалі дзве нехрысціянскія. Яўрэйскае насельніцтва спавядала іудаізм, татарскае — іслам. Царскі ўрад па-рознаму ставіўся да гэтых канфесій у залежнасці ад палітычных абставін. Татарам Кацярына II у 1794 годзе абяцала, "что не только оставляем их в свободе отправлять свое богослужение и при всём том, что в Литве они имеют, но желаем обеспечить их состояние".

Ад былога Вялікага княства Літоўскага засталіся мячэці, вакол якіх групаваліся татарскія абшчыны і пачала фарміравацца сетка мусульманскіх прыходаў. На тэрыторыі Беларусі былі мячэці ў Лідскім павеце — Некрашунская, Ашмянскім — Даўбуцішская, Навагрудскім — Навагрудская і Лоўчыцкая, Мінскім — Мінская, Гродзенскім — Багонікская і Куршынянская, у Брэсцкім — Студзянская. У XIX стагоддзі іх стала яшчэ больш.

Пытанне аб падпарадкаванні мусульман вышэйшаму канфесійнаму органу вырашалася некалькі разоў. У 1803 годзе татары заходніх губерняў адмовіліся падпарадкоўвацца Арэнбургскаму муфтыю, матывуючы гэта асаблівасцю свайго становішча ў выніку прывілеяў, якія былі дараваны польскімі каралямі, калі пытанне аб канфесійным падпарадкаванні наогул не падымалася. На нейкі час яны былі пакінуты на самастойнае кіраванне. З 1831 года ў сувязі з агульнымі пераўтварэннямі ў краі, звязанымі з паўстаннем 1830—1831 гадоў, татары заходніх губерняў былі падпарадкаваны Таўрычаскаму магаметанскаму духоўнаму праўленню, у склад якога ўваходзілі муфтый — галава праўлення з ліку вышэйшага духавенства і члены: кадзій-эскер (намеснік муфтыя) і павятовыя кадзіі. Аднак мусульмане заходніх губерняў ніколі не мелі сваіх прадстаўнікоў у духоўным праўленні і звярталіся туды выключна дзеля зацвярджэння выпісак з метрычных кніг, зацвярджэння кандыдатаў на пасадзе мулы і яго памочнікаў; іншым разам па шлюбных справах.

Паводле ўказаў ад 14 снежня 1837 года, выбранне мулаў і іншых мусульманскіх асобаў па прыходах мусіла адбывацца паводле волі не менш як 2/3 прыхаджан, якія лічыліся старэйшынамі сямейства, у выбарах не маглі ўдзельнічаць асобы, якія не належалі да выбіраючага грамадства, а таксама малодшыя члены сямейства (сыны, што жылі разам з бацькамі, самыя меншыя браты, пляменнікі і г.д.). Прыгавор грамадства аб выбіранні мулы неабходна было падпісаць у мясцовых уладаў, накіраваць у Таўрычаскае духоўнае праўленне, якое потым за канчатковым зацвярджэннем звярталася да губернскага праўлення.

Духоўныя асобы Таўрычаскай магаметанскай акругі і мулы заходніх губерняў, пакуль знаходзіліся на пасадзе, вызваляліся ад падаткаў і павіннасцей. У заходніх губернях на працягу ўсяго XIX стагоддзя ўсе мулы былі з дваранскага стану. Утрымоўвалі іх самі прыхаджане. Некаторыя прыходы рабілі захады, каб іх мулы атрымлівалі грошы ад казны. У ліпені 1882 года так зрабілі прыхаджане Асмалоўскай саборнай мячэці, матывуючы прашэнне тым, што ў войсках, раскватараваных на іх тэрыторыі, ёсць мусульмане з іншых губерняў. Яны звярталіся да мулы, або яго выклікалі да сябе, а гэта прыводзіла да непрадбачаных расходаў. Ведома, Мінскае губернскае праўленне зрэагавала звычайнай чыноўніцкай адпіскай...

Дэпартамент духоўных спраў замежных веравызнанняў у Пецярбургу, Таўрычаскае магаметанскае духоўнае праўленне, губернскія праўленні на працягу ўсяго перыяду разглядалі ў асноўным справы, звязаныя з пабудовай або рамонтам мячэцей у беларуска-літоўскіх губернях, і скаргі прыхаджан-мусульман, якія былі не згодны з выбраннем таго ці іншага мулы або з дзейнасцю некаторых духоўных асоб. Праўда, разгляды часта расцягваліся на месяцы і гады. Гэта было звязана не толькі з бюракратызмам чыноўнікаў, але і з вялікай адлегласцю паміж Пецярбургам, Крымам і Мінскам, Вільняй або Горадняй. Так, 25 мая 1881 года прыхаджане Слонімскай мячэці звярнуліся па грашовую дапамогу да міністра ўнутраных спраў, неабходную на аднаўленне (пасля пажару) бажніцы. У прашэнні яны пісалі, што "магометанское духовенство и мечети в Северо-Западном крае по силе закона существуют исключительно на лепту прихожан...", аднак яны не маюць дастаткова грошай і просяць тысячу рублёў. Міністр уважліва паставіўся да просьбы, і Дэпартамент духоўных спраў замежных веравызнанняў 21 сакавіка 1883 года звярнуўся ў Таўрычаскае духоўнае праўленне, каб тое знайшло сродкі. Грошы для слонімскіх вернікаў былі выдзелены.

30 верасня 1874 года ў мінскае губернскае праўленне падаецца прыгавор з просьбай дазволіць пабудаваць мячэць у мястэчку Клецк. Але не хапіла колькасці прыхаджан (патрабавалася не менш як 200 душ — мужчын). Дазвол на пабудову быў дадзены толькі 27 верасня 1884 года, калі колькасць мусульман павялічылася (за кошт вернікаў у асноўным з іншых прыходаў). Яшчэ ў 1881 годзе для Клецкага прыхода быў абраны мулой Мустафа Ждановіч, якога зацвердзілі, пасля доўгіх спрэчак, толькі 12 снежня 1885 года.

Таксама доўга вырашалася справа з выбраннем мулы для мячэці ў ваколіцы Мураўшчызна Ашмянскага павета Віленскай губерні. Прыход падзяліўся на дзве часткі і выбраў двух кандыдатаў: Бекіра Рафалава і Мустафу Багдановіча. Скаргі былі з абодвух бакоў, і ў 1886 годзе Таўрычаскае праўленне парэкамендавала абраць новага мулу, які б падабаўся ўсім прыхаджанам. Абралі Мустафу Багдановіча...

Татары заходніх губерняў, адлучаныя на працягу стагоддзяў ад ісламскага свету, зберaглі сваю веру, хаця і не зусім добра былі з ёю знаёмыя, з-за таго, што мала хто ведалі арабскую мову, на якой быў напісаны Каран. Уладзіслаў Сыракомля пісаў у 50-я гады XIX стагоддзя: "калі сёння адзін экземпляр Карана задавальняе патрэбы цэлай ваколіцы, у якую ўваходзіць больш за дзесятак сядзіб, калі татарын моліцца па-арабску, не разумеючы мовы, вельмі лагічна разважаючы, што Бог, які ведае ўсе мовы лепей, чым ён сам, і так зразумее ягоную малітву".

22 верасня 1903 года Віленскі, Ковенскі і Гродзенскі генерал-губернатар паведаміў у Міністэрства ўнутраных спраў аб тым, што "обнаружено в с.Видзах тайное обучение (гэта значыць не зацверджанае ў мясцовых уладаў) детей магометан Закону Божию и молитвам по Корану" і што ён звярнуўся у Віленскую навучальную акругу, каб высветліць, які існуе парадак адносна выдачы дазволу на права вучыць дзяцей-мусульман. Дэпартамент народнай асветы паведаміў, што, згодна з дзеючым законам, асобам магаметанскага веравызнання не выдаецца пасведчанні на права навучання дзяцей закону іх веры.

Колькасць татарскага насельніцтва на працягу XIX стагоддзя павялічвалася. Калі ў 1853 годзе ў заходніх губернях іх было 3537 чалавек, то паводле перапісу 1897 года — 13877 чалавек. Невялікая колькасць мусульман з'явілася і ў Віцебскай губерні. У 1912 годзе іх налічвалася 421 (у Віцебску — 61 вернік, Веліжскім павеце — 3, Дзвінску — 301, Дзвінскім павеце — 27, Полацку — 12, Полацкім павеце — 10, Рэжыцы — 7 мусульман-вернікаў). Найбольшая колькасць мусульман знаходзілася ў Дзвінску. Праўда, трэба мець на ўвазе, што большыню мусульман Дзвінска складалі ваенныя, якія кватаравалі тут — 245 чалавек, сярод жыхароў горада іх было 56 чалавек — з іх 22 татары, 8 — туркмены.

У канфесійным жыцці Беларусі на працягу XIX і ў пачатку XX стагоддзя адбываўся пераход з адная веры ў іншую. Лягчэй за ўсё было перайсці ў праваслаўе. Адзінкавыя выпадкі такіх пераходаў назіраліся і сярод татар. Адбываліся пераходы і ў каталіцтва. 27 кастрычніка 1852 года Віленскі ваенны губернатар і генерал-губернатар гродзенскі, Мінскі і Ковенскі звярнуўся да мінскага губернатара, каб той даў яму звесткі аб выпадках хрышчэння навагрудскімі дамініканамі некалькіх татарак. Паводле звестак чыноўніка па асобых даручэннях, у Навагрудку ў 1844-1852 гадах у дамініканскім заштатным кляштары было ахрышчана 6 татарак-мусульманак. Сярод іх былі Ханіфа Кусцінская, Фацьма Александровіч, Ханіфа Маторанка, Фацьма Палтаржэцкая і Галька Лебедзева. Яны прынялі новую веру добраахвотна і з дазволу міністра ўнутраных спраў, на што меў дакументы навагрудскі дэкан Эйсмант.

Добрыя адносіны татарскага народа з іншымі народамі на Беларусі, а гэтаму спрыялі працавітасць і высокая маральнасць мусульман, выклікалі гэткае ж добрае стаўленне і да іх, і да іхняе веры.

Пасля кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года становішча мусульманскай канфесіі карэнным чынам змянілася. Як і іншых канфесій у грамадстве. Пасля пераходу ўлады да Саветаў пачалася канфрантацыя дзяржавы з усімі веравызнаннямі. У аснове такой палітыкі ляжала арыентацыя марксізму-ленінізму на тое, што рэлігія існуе толькі ў сілу ўласцівых грамадству пэўных сацыяльна-класавых антаганізмаў. На думку К.Маркса, "рэлігія будзе знікаць у тым памеры, у якім будзе развівацца сацыялізм". На гэтых пазіцыях стаяў Ленін. Яшчэ ў 1905 годзе ў рабоце "Сацыялізм і рэлігія" ён пісаў, што рэлігія — род духоўнай сівухі, таму "прапаведаваць навуковы светапогляд мы заўсёды будзем".

Нягледзячы на аддзяленне царквы ад дзяржавы, узмацнялася яе ўмяшанне ў рэлігійнае жыццё. 26 лютага 1922 года была апублікавана пастанова УЦВК, якая прапанавала канфіскаваць усе царкоўныя каштоўнасці дзеля дапамогі галадаючым Паволжа. Дзеля гэтага была створана нават спецыяльная камісія (на чале з А.Чарвяковым). Разам з бажніцамі іншых канфесій былі абрабаваны і мячэці. Апошнія набыткі былі ўзяты з мячэцей у Смілавічах і Капылі. 27 чэрвеня 1922 года Цэнтральнае Бюро КП(б) Беларусі правяло нараду з сакратарамі ўкамаў і старшынямі выканаўчых камітэтаў. У дакладах кіраўнікоў з месцаў адзначалася, што ў Слуцкім і Барысаўскім укамах канфіскавана па 3 пуды срэбра, у Ігуменскім — 1 пуд і г.д.

Трэба адзначыць, што пасля падзелу Беларусі паводле Рыжскага дагавору 1921 года на тэрыторыі рэспублікі па дадзеных перапісу 1926 года пражывала 3777 татар (0,07% ад агульнай колькасці насельніцтва). Прычым 3219 чалавек жылі ў гарадах і пасёлках гарадскога тыпу і 558 — у сельскай мясцовасці. У наступныя гады ўзмацняўся ціск на ўсе віды канфесій. Гэта асабліва стала адчувацца, калі ў гарадскую думку пачала ўкараняцца "тэорыя" абвастрэння класавай барацьбы ў працэсе пабудовы сацыялізму. Лічылася, што прадстаўнікі ўсіх канфесій бяруць актыўны ўдзел у барацьбе супраць мерапрыемстваў дзяржавы, з'яўляюцца актыўнай контррэвалюцыйнай сілай. Сталін у гутарцы з амерыканскай рабочай делегацыяй у верасні 1927 года адзначыў, што партыя не павінна быць нейтральнай "у адносінах да рэакцыйнага духавенства, якое атручвае сумленне працоўных мас". Ён выказаў спадзяванне на тое, што антырэлігійная прапаганда з'явіцца тым сродкам, "які павінен давесці да канца справу ліквідацыі рэакцыйнага духавенства". Антырэлігійная прапаганда на сталінскай мове азначала знішчэнне мячэцяў і мулаў. Тое ж было пастаўлена ў цэнтр дзейнасці партыйна-дзяржаўных органаў Беларусі.

Калі ва ўсходняй частцы Беларусі вялася барацьба з мусульманскай рэлігіяй, то ў заходніх рэгіёнах назіраўся працэс адраджэння ісламу. Нагадаем, што, паводле дадзеных прафесара Я.Станкевіча, у 1931 годзе ва ўсей Польшчы налічвалася каля 6 тысяч татар. З гэтай колькасці толькі для некалькіх дзесяткаў месцам пражывання з'яўлялася Варшава, астатнія жылі на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Тут дзейнічала 19 рэлігійных абшчын. У невялічкай этнічнай групе яны падтрымлівалі ясачкі духоўнасці, сумлення, выхоўвалі павагу ў адносінах паміж людзьмі. Адбудоўваліся мячэці, якія ў ваенных вірах пачатку XX стагоддзя былі спалены ці разбураны. У 1928 годзе пачала дзейнічаць мячэць у Ляхавічах, у 1930 — у Мядзелі, у 1932 годзе — у Відзах.

Добра служыла наладжванню справы адукацыі падрастаючага пакалення, развіццю нацыянальнай культуры рэлігійная абшчына г.Слоніма, дзе ў 1938 годзе жыло 413 мусульман. Тут шмат увагі надавалася дзецям. Традыцыяй мусульман горада сталі балі з нагоды байрамаў, якія праводзіліся ў другі ці трэці дзень свята. Сюды прыязджалі госці з іншых гарадоў і мястэчак. У 20-я гады ў Слоніме было створана Мусульманскае культурнае таварыства. У 1927 годзе па ініцыятыве яго членаў на добраахвотных пачатках пачала дзейнічаць бібліятэка, якая праіснавала да 17 верасня 1939 года.

У пасляваенны час рэлігійнае жыццё татар працягвала згортвацца. Калі на пачатак 1946 года у БССР дзейнічала 7 мусульманскіх абшчын, дык 1 студзеня 1948 года іх налічвалася 4. У першым квартале 1948 года была закрыта абшчына ў мястэчку Стары Мядзель Маладзечанскай вобласці. Прычынай закрыцця з'явілася тое, што абшчына не мела мячэці, а вернікі збіраліся на службу ў прыватных дамах. У гэты час у рэспубліцы дзейнічала 8 мячэцяў, але з-за адсутнасці мулаў былі зарэгістраваны толькі 4. У складаных умовах працавала мячэць у Мінску. Мула Мустафій Хасеневіч прыкладаў вялікія намаганні, каб моладзь і людзі сярэдняга ўзросту наведвалі храм. Пад уплывам антырэлігійнай прапаганды вернікі-мусульмане не спяшаліся ісці туды. Працаваць станавілася ўсё цяжэй і цяжэй.

За 1947 год мула мусіў заплаціць дзяржаве немалы па тым часе падатак — 2838 рублёў. Выканаць гэта было цяжка. Фінансавы аддзел Мінска падаў на Хасеневіча ў суд. Вернікі сабралі грошы, судовая справа сталася падставай, каб паставіць пытанне аб закрыцці мячэці. Праз некаторы час мячэць была закрыта, а потым разбурана. Зараз на яе месцы пабудаваны рэстаран "Юбілейны".

Да 1985 года ў рэспубліцы працавала толькі мячэць у Іўі...

**Уладзімір НАВІЦКІ,**
**Валянціна ГРЫГОР'ЕВА,**
**Алена ФІЛАТАВА**
**— адмыслова для газеты "Культура".**



*На здымку: мячэць у Некрашунцах Гродзенскай вобласці (фота 1932 года).*

ЗАМЕСТ КРОПКІ





# ПОШУК ФОРМЫ



З 25 па 27 ліпеня ў Беларускім цэнтры моды адбываўся Беларускі фестываль моды. Мерапрыемства было арыентавана пераважна на шырспажыў, пераважалі калекцыі прамысловых прадпрыемстваў. Так, былі паказаны паліто фабрыкі "Элема", бялізна "Мілавіцы", прадукцыя Берасцейскага панчошнага камбіната, скургалантарэя мінскай фабрыкі "Галатэя". Большасць калекцый спецыялістам у галіне адзення былі вядомыя раней: неаднаразова выстаўляліся работы Таццяны Собаль, Аляксея Крывашэева. Ужо не выклікалі эстэтычнага задавальнення кашулі і нагавіцы італьянскай фірмы "Берлоні", не адпавядала свайму кошту адзенне крамы "Рафаэль".

Разам з тым цікавасць у публікі выклікала калекцыя, прадстаўленая фабрыкай "Алеся", на жаль, у крамах штонебудзь з паказанага знайсці дужа цяжка.

З прыхільнасцю гледачы аднесліся да калекцый мадэльераў Міжнароднай асацыяцыі дызайнераў з Масквы, вечаровых сукенак Ніны Фядорчанка.

Журы, пэўна, цяжка было вызначыць агульныя крытэрыі, па якіх трэба ацэньваць прадстаўленыя вырабы, розныя па функцыі і прызначэнні. Галоўны прыз быў прысуджаны калекцыі "Афрыка", што была прадстаўлена фабрыкай "Алеся", якая акрамя эстэтычнай напоўненасці пазбягае праграмнай элітарнасці.

Спадзяемся,што калі будуць наладжвацца наступныя падобныя фестывалі, арганізатары паставяцца больш уважліва да прадстаўнікоў прэсы, рэкламы, пазбегнуць арганізацыйных казусаў.

Актуальнасць стварэння больш шырокай прасторы для прэзентацыі мастацтва адзення сёння відавочная, і ёсць падставы меркаваць, што БЦМ здольны праводзіць імпрэзы міжнароднага ўзроўню.

**Н.К.**

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**





РОК-РАУНД

## КАЖАНЫ АД РОК-МУЗЫКІ

21 ліпеня ў Менску адбыўся сэйшн хардкоравай і дэсавай музыкі "Dark posession". Як вядома, беларуская рок-сцэна заўсёды славілася як колькасцю металёвых гуртоў, гэтак і колькасцю іхніх прыхільнікаў. Праўда, музычная ідэя шмат якіх праектаў часцяком запазычваецца з заходніх аналагаў, і спектр тутэйшае металёвае музыкі залежыць ад таго, што ўвогуле модна ў свеце. Але ў чым металістам не адмовіш, дык гэта ў адносным прафесіяналізме і наватарстве. Гэтым яны моцна вылучаюцца на агульным тле. І адныя з найбольш прагрэсіўных і папулярных гуртоў акурат і ўзялі ўдзел у тым сэйшне.

Дзесьці падвечар задворкі Машынабудаўнічага коледжа раптам пачалі запаўняцца апранутымі нібы па уніформе — канцэртная майка "Металікі" + парваныя джынсы — прыхільнікамі экстрэмальнай музыкі. Але іхні маладзецкі імпэт лёгка згасілі суровыя хлопцы з "сэк'юрыты". Па тэхнічных прычынах (неадладжанасць апаратуры) пачатак быў затрыманы ўсяго на паўтары гадзіны.

Зрэшты, апошняе не пазбавіла публіку ўсёй яе энергіі, і калі на сцэну залі, больш прыдатнай да заняткаў аэробікай, чымсьці да падобных мерапрыемстваў, выскачылі музыканты гурта "Gladiator", сустрэтыя яны былі як належыць. Што тычыцца музыкі, то ўяўляе яна сабой класічны хард-рок узору "Лед зэпелін", прапушчаны праз сіцечка трэшу. Слухаецца ўсё гэта добра, але гурту не ўдалося ўнікнуць манатоннасці ў чыста трэшавых кампазіцыях, хаця асабліва вінаваціць іх за гэта не варта, бо, па-мойму, лягчэй вярблюду прайсці праз ігольчына вушка, чым мясцоваму трэшару пазбавіцца манатоннасці.

Далей выступалі "Sarcastic green". Іхняя музыка — досыць арыгінальная сумесь дэса, фанка, рэгей і чагосьці яшчэ. Карацей, аматары творчасці "Faith no more" былі задаволеныя.

Саунд "Zygimonta VAZY" быў яшчэ больш дубовым, чым звычайна, я сказаў бы, канцэптуальна дубовым. Ажно страшна становіцца. А вось слухаць стылізацыі пад польскі постпанк 80-х было ў вышэйшай ступені непрыемна.

А найбольш, пэўна, вясёлым момантам імпрэзы быў выступ каманды "Burfly's dreams". Трэба сказаць, што па сваіх мастацкіх якасцях гурт моцна прагрэсіруе. Цяпер у іх досыць "зубадробны", калі можна так выславіцца, саунд, і музычна ды тэматычна "сны алкаголіка" вельмі блізкія да амерыканскага хардкору ўзору J.Biafra: кароткія, па 1,5-2 хвіліны песенькі, тэкст якіх, як правіла, складаецца з аднога рэфрэна пракламацыйнага зместу. Пра змест, дарэчы, варта сказаць асобна. Захапіўшыся ідэямі рок-рэвалюцыі ці чагосьці там яшчэ, хлопцы пераўтвараюць свой канцэрт у нешта кшталту мітынгу, дзе гаворыцца пра ўсё і аб усім: спачатку матам пакрываюцца бедныя кіраўнікі нашае дзяржавы, а напрыканцы агучваецца набіўшая аскоміну тэза, што чалавек не павінен станавіцца робатам. Усё гэта, натуральна, па-ангельску, але з невялікімі каментарамі. Трэба сказаць, што тут хлопцаў нельга назваць арыгінальнымі: на Захадзе і не такое бывае, хутчэй, наадварот: яны ўжываюцца ў класічны вобраз тамтэйшага рокера. Часам гэта выглядае смешнавата, асабліва калі "алкаголікі" пачалі лаяць прэсу, сцвярджаючы, што я і мае калегі не павінны чапляць сваімі бруднымі лапамі рок-н-рол, "бо ён ці ёсць, ці яго няма". Ды не патрэбныя вы гэтаму "істэблішменту", шаноўныя! Крытыкаў, якія б маглі даць рады пры ацэнцы андэграўнднай музыкі, у нас фактычна няма. Хіба толькі які Гальляш Сьвірын на вашую імпрэзу сцягаецца...

А апошнім нумарам сэйшна быў добравядомы "Pathologist Department" са сваёй дэсавай белібярдой. Гучала ўсё гэта нармальна: крута, прафесійна і самую маласць арыгінальна. Пэўна, дзеля надання саунду "большай гатычнасці" гурт стаў выкарыстоўваць клавішы як найбольш даступны сродак замены аргана. Апошняе нельга назваць знаходкай. А па рэліктавасці і неадпаведнасці чамусьці рэальнаму тэмаў сваіх тэкстаў "паталагісты", па-мойму, па-за канкурэнцыяй.

Увогуле трэба сказаць, што атмасфера на канцэрце панавала досыць прыемная, і хлопцы, якія, пазбаўленыя з-за ўжыцця "вогненнай вады" ўсіх жыццёвых сіл, займалі сваімі целамі пэўную частку плошчы падлогі, зусім не выглядалі брыдка, хутчэй нават каларытна.

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік — Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: 76-94-66

Галоўны рэдактар — Алег КАМІНСКІ

Рэдакцыйная калегія:
Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Алесь КАРЛЮКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Віктар ТУРАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ

Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Камп'ютэрная вёрстка — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

©
Фармат А3.
Індэкс 63875
Агульны наклад 5000
Замова 3120
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.